# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 40 (1638) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 4 КАСТРЫЧНІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.


## ПРЫРОДА — НАША ГНЯЗДО

Ахова прыроды, ці, як цяпер гавораць, ахова натуральнага асяроддзя чалавека або экалогія, становіцца і ў нас у Польшчы, і ў нас на Беласточчыне праблемай № 1. (На свеце гэтая праблема ўжо даўно сталася важнай). На барацьбу за прыроду становіцца ўсё больш людзей. У Бельску мне дагэтуль былі вядомы два актыўныя барацьбіты за захаванне прыроды, афіцыйная назва якіх „стражнікі прыроды". Гэта: Барыслаў Рудкоўскі і Андрэй Гаўрылюк. Нямала матэрыялаў пра ахову прыроды яны апублікавалі і ў „Ніве".

І вось мгр. інж. Барыслаў Рудкоўскі, які з'яўляецца кіраўніком раённай групы стражы аховы прыроды ПТТК у Бельску, наведаў рэдакцыю і прынёс адну новую прыемную вестку. Эля Бэзюк з Бельска, вучаніца Бельскага ліцэя, лаўрэат першай узнагароды ў чытальніцкім конкурсе беларускай літаратуры, актыўны член бельскага тэатра „Парнас", захацела стаць стражнікам прыроды і атрымала такі білет. Гэта радасна, што беларуская моладзь пачынае ўключацца ў агульнасусветны магутны рух барацьбітоў за ахову прыроды, экалагістаў.

(Працяг на стар. 5)



Фота Я. Целушэцкага

## ЦІ ЗМОЖАМ?

З газет і паведамленняў у гуртках і аддзелах БГКТ ужо нямала ведаем пра пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы. Даволі вычарпальна пісаў пра гэтую справу і Уладзімір Юзвюк у „Беларускім календары на 1987 год". Усе гэтыя звесткі выклікалі ў мяне цікавасць. І я наведаў будову музея, а таксама гайнаўскі клуб БГКТ, у якім мае сваю сядзібу Грамадскі камітэт пабудовы музея. Пагаварыў я з актывістамі. Упаткаў і М. Панфілюка з Нараўкі, гэтак жа зацікаўленага музеем нашым. Ён вельмі перажывае гэтую справу, яго ўздзел у пабудове зазначаны сумай чатырнаццаці тысяч злотых. У кніжцы будаўнікоў музея запісаны прозвішчы і іншых выдатных ахвярадаўцаў — Ю. Зюзі, А. Баршчэўскага, В. Назарука, А. Юзафовіча, М. Касабука, Я. Жамойціна, І. Вараўкі, Ю. Раманчука, Я. Тапалянскага, А. Іванюка, Ф. Галёнкі, праф. Е. Тамашэўскага і інш. Пры мне зайшоў у гэты клуб адзін былы член слаўнай Грамады, Пятро Пракапюк з Трасцянкі. Ён прыйшоў палюбавацца будовай і прынёс свае грошы на яе. Добра было б, калі б такіх, як Пракапюк, аказалася болей. Дарэчы будзе адзначыць, што кожны член Беларускага таварыства павінен адчуваць абавязак дапамагчы грашыма ў збудаванні Беларускага музея ў Гайнаўцы. А нават і школы, вучні.

Я даведаўся, што будовай нашага музея цікавяцца дзяржаўныя дзеячы і польскія творцы культуры. Цікавяцца і людзі з замежжа, з Аўстраліі, Канады, Бельгіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Беларускай ССР. Быў нават мастак Пятро Паўлючук з Аргенціны, які родам з падбельскіх Галадоў. Усе гэтыя госці цікавіліся не толькі самім музеем, але і беларускай культураю наогул.

Вельмі рады я, што будова сяк-так ідзе наперад. Майстры ўжо маглі б закончыць будынак „А" — першы з комплекса музея, памерамі 60 м на 15 м. Аднак малавата грошай для гэтага. Трэба грамадскімі грашыма даць да трыццаці працэнтаў вартасці інвестыцыі. І тут паўстае пытанне: ці зможам? І чаму мы маем не даць рады? На маю думку, адказ на гэтыя пытанні трэба шукаць усім нам — на сходах Беларускага таварыства, ва ўсім беларускім асяроддзі, у народзе нашым. Справа вялікая, але і грошы, патрэбныя для гэтай справы, таксама вялікія мусяць быць. Музей павінен зрабіцца нашай нацыянальнай амбіцыяй! Нас, беларусаў у Бела-

(Працяг на стар. 6)

## ЗАБЫТЫ ГЕРОЙ

Аб мінулым Яўген Несціяровіч расказвае неахвотна. Нават дзецям сваім не расказаў усяго дакладна, бо і не мог расказаць, колькі давялося яму перанесці паніжэння, здзекаў, праследавання. Яго перажыванняў хапіла б прынамсі на дзесяць чалавек.

Найбольш урэзаліся яму ў памяць дзіцячыя гады. У 1920 годзе Яўгену было шэсць год. Іх сям'я вярталася тады з бежанства: надта ж цягнула ў родны кут, у цесныя сцены пакінутай хаты ў Гаркавічах, што на Сакольшчыне. Вяртанне было вельмі цяжкае, моцна хворы бацька цяжка дыхаў, мучыўся. Яго шыя і грудзі былі апухшыя. У Мінску санітары забралі з цягніка ледзь жывога бацьку і павезлі ў бальніцу. Маці, пакінуўшы дзетак на вакзале, на другі дзень пайшла шукаць бацьку, усюды дапытвалася, але знайсці яго так і не змагла. А здавалася, што было б ёй лягчэй, калі б была пры яго смерці, прынамсі падаў бы хто ў перадсмяротную хвіліну шклянку вады або перавярнуў бы на другі бок...

Але час быў тады неспакойны. Шмат людзей паміралі і медслужба ўсё рабіла, каб не выбухла нейкая эпідэмія. Далей Несцяровічы вымушаны былі ехаць без бацькі. Хата ў Гаркавічах стаяла халодная і зніштожаная. Трэба было брацца за гаспадарку без гаспадара, без каня, ды нават і хлеба ўдосталь не было. Яўген і Аляксандр сталі пастухамі. І ў 1925 годзе ўдалося ім купіць каня. А ў 1930 годзе нахлынула новае гора. Паўсіроты Несціяровічы сталі поўнымі сіратамі, бо памерла іх маці.

У Гаркавічах бурліла беларуская рэвалюцыйная атмасфера, якая запаланіла моладзь. Іх аднавясковец Павел Валошын, адзін з галоўных кіраўнікоў рабоча-сялянскай Грамады меў вялікі палітычны ўплыў на гаркавічан. І пагледзячы на тое, што Грамаду задушыла панская Польшча, а яе кіраўнікоў пасадзіла ў турмы, ідэі змагання за лепшы лад і жыццё ўмацноўвалі другі жыхар Гаркавіч — Сяргей Прытыцкі, які стаў беларускім нацыянальным героем, арганізатарам Камсамола Заходняй Беларусі і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Ідэі КПЗБ заразілі многіх жыхароў Гаркавіч, сярод якіх быў і Яўген Несціяровіч.

У 1932 годзе ён быў прыняты ў Камсамол, а ў 1934 годзе — у рады КПЗБ. Тады іх абавязвала строгая канспірацыя. Існавалі партыйныя пяцізасобныя ячэйкі, і члены адной ячэйкі не ведалі аб членах другой. У Гаркавічах былі тры такія ячэйкі. У склад Яўгенавай, апрача яго, уваходзілі: Лёнік Прытыцкі, Іван Яцэвіч, Мікалай Савіцкі і Сяргей Матусевіч.

І Камсамол і КПЗБ пашыралі рэвалюцыйныя, камуністычныя ідэі: наладжвалі патаемныя сходы, распаўсюджвалі марксісцкую літаратуру, лістоўкі, рэвалюцыйныя песні, падтрымлівалі бастуючых і г.д. Перад 1 Маем

(Працяг на стар. 7)




## АБ МОГІЛЬНІКАХ

Вядома, што ў міжваенны перыяд такія мястэчкі, як Міхалова, Нараўка, Кляшчэлі, былі ў вялікай ступені населены яўрэямі. Зразумела, што ў такіх гарадках не жыла яўрэйская арыстакратыя. Наадварот, была гэта яўрэйская бедната: дробныя гандляры, арандатары, рамеснікі. Я не раз ездзіў з бацькам на рынак у Міхалова, Нараўку і Ялоўку і памятаю барадатых яўрэяў, якія мацалі на возе мяшкі, прыцэньваліся, таргаваліся, куплялі. Памятаю, як у аднаго рамесніка ў Ялоўцы бацька купіў мне скураныя лапці. Былі гэта адзіныя лапці ў маім жыцці. Стаптаўшы іх, я ўжо болей у лапцях не хадзіў. Неяк там выкручваўся. Зразумела, што ад ранняй вясны да позняй восені хадзіў я босы. Зімой у нейкіх там ботах, амаль заўсёды цесных. А купленыя ў ялоўскага яўрэя лапці я запамятаў вельмі добра таму, што адзін з іх меў разрэзаную падэшву, да якой я безупынна прышываў латку, а яна вельмі хутка адрывалася. Зрэшты, нават тады, калі яна трымалася, вельмі лёгка трапляла ў лапаць дажджавая вада і нават гразь. Аднак гэта толькі дэталі...

Так ці інакш, яўрэі сталіся вельмі арыгінальным і трывалым элементам тагачаснага этнічнага пайзажу. Здзіўляла мяне заўсёды тое, што кожны з іх ведаў бацьку і, падыходзячы да воза, заўсёды адзываўся: „Ну, Андрэй, як там пажываеш?“

Запамяталася мне бадай што найбяднейшая катэгорыя даваеннага яўрэйства. Былі гэта так званыя анучнікі. Ездзілі яны па вёсках і куплялі розныя лахманы і рыззё. Падзертая вопратка, вопратка па памёршых, рознага тыпу хлам знікаў у яўрэйскім возе. За гэтыя „скарбы“ атрымлівалі жанчыны нейкія там грашакі або прадметы тыпу кружак, лыжак, іголак ці фарбы. Ездзіў і яшчэ адзін яўрэй, які купляў выключна шкляны посуд. З бутэлькамі да яго беглі перш за ўсё дзеці. Запамяталася мне, што гэтыя бутэлькі гандляр не складаў на возе, а разбіваў на дробныя асколкі. Чаму? Мабыць, шкло ў такім стане прымала ад яго гута.

Памятаю пачатак яўрэйскай драмы ў часе акупацыі. Праўда, не бачыў я высялення яўрэяў, а тым болей іх расстрэлаў. Аднак запамяталіся мне аўрэі, якія карысталіся яшчэ абмежаванай свабодай і маглі хадзіць па вёсках, але ўжо насілі на вопратцы жоўтыя шасцікутныя зоркі. Зоркі гэтыя звеставалі набліжэнне драмы. Захаваўся ў маёй памяці такі эпізод: яўрэй з Ялоўкі прыйшоў да нас на панадворак і пачаў з бацькам гаворку наконт куплі пуда мукі. У пэўным моманце бацька сказаў яму, што яўрэі павінны ўцякаць у лясы, „бо немцы вас выкідлышат“. На жаль, дакладна не памятаю адказу яўрэя. Кал праз многа гадоў я пытаў бацьку пра гэту размову, дык ён гаварыў, што яўрэй тлумачыў тады, што нельга ўцячы ад лёсу і што „згінота жыдоў запісана ў талмудзе“.

Найважнейшае, аб чым я хачу сёння сказаць, адносіцца да паводзін нашага насельніцтва ў часе ліквідацыі яўрэяў. Прагну падкрэсліць, што я не сустрэўся з фактам адабрэння ці падтрымкі гітлераўскіх практык. Наадварот, многія жыхары з маёй вёскі гаварылі аб гэтым з глыбокім абурэннем і шчыра

(Працяг на стар. 4)

# КНІЖКА, ЯКУЮ ВАРТА ВЕДАЦЬ

Беларускія кнігі з БССР атрымоўваем мы са спазненнем, а часта не ведаем нават доўгі час пра тое ці іншае цікавае выданне. Рэзка адчуваецца адсутнасць добрага і даступнага каталога, а што за тым ідзе — магчымасці пакупкі. Гэтым толькі можа апраўдаць спазненне нашай рэцэнзіі на кніжку Зянона Пазняка „Рэха даўняга часу“, вышаўшай у мінскім выдавецтве „Народная асвета“ ў 1985 годзе. Бо сама кніжка надта ж цікавая.

Мінск, сталіцу Беларусі, ведаем перш за ўсё як вялікі горад, у якім жыве больш за паўтара мільёна насельніцтва, які быў разбураны ў час апошняй вайны і буйны росквіт якога выпадае якраз на пасляваенны перыяд. Усё гэта праўда. Сапраўды, у Мінску ў пачатку нашага стагоддзя жыло недзе каля 60 тыс. насельніцтва і быў ён шмат меншы абшарам. Але, з другога боку, нельга забываць пра тое, што яму, Менску (бо такая яго гістарычная назва), больш чым 900 гадоў і што існуюць усё яшчэ помнікі архітэктуры, якія сведчаць пра даўнія яго традыцыі.

„Гісторыя — гэта аб'ектыўны вопыт і калектыўная памяць нацыі. Як асобны чалавек без памяці аб сваім пражытым жыцці, аб сваім учарашнім дні, не можа паўнацэнна існаваць сацыяльна і культурна ў грамадстве, не можа назапашваць вопыт духоўнага развіцця, так і народ без гісторыі губляе сваю культурную, а ўрэшце і сацыяльную перспектыву“, — піша аўтар ва ўступе да кніжкі і зараз жа запрашае нас на шпацыр па старых вуліцах Мінска, дзе ўласнымі вачыма зможам убачыць след думкі і працы нашых продкаў. Аказваецца, што знайсці яго не так і лёгка. Цяжкасці гэтыя можна тлумачыць ваеннымі знішчэннямі, але таксама і „... занядбаннем, у якім знаходзіцца гістарычная забудова, уцалелая пасля вайны ды (...) не зусім уважлівымі адносінамі да горадабудаўнічай спадчыны, што прывяло да страты значнай часткі гістарычнай забудовы і некаторых помнікаў гісторыі і культуры“.

У вывучэнні мінулага вялікую ролю адыгрываюць археалагічныя раскопкі і то не толькі тыя, якія датычаць самай старажытнай гісторыі, але і адносна навейшых часоў. Таму кніжка і пачынаецца раздзелам пра мінскія лёхі ды вынікі даследаванняў беларускіх археолагаў, праведзеныя ў сямідзесятых гадах.

Далей аўтар расказвае пра урбаністычнае развіццё горада, пачынаючы з узнікнення мёнскага замка яшчэ ў XII ст. аж да бурлівага будаўнічага ўздыму ў перыяд ранняга капіталізму. Аказваецца, што сетка вуліц і плошчаў на абшары гістарычнага Мінска захавала ў агульным сваю першапачатковую структуру, а некаторыя вуліцы, хаця пад змененай назвай, існуюць амаль ад самага ўзнікнення горада. У далейшым кніжка падзелена на тры раздзелы, у якіх аўтар апісвае архітэктуру чарговых гістарычных эпох: рэнесансу і барока, класіцызму і гістарызму. Кожны раздзел пачынаецца кароткай характарыстыкай стылю на фоне гісторыі еўрапейскага мастацтва ды змястоўным аналізам працэсаў, якія праходзілі на тэрыторыі Беларусі, і іх суадносінамі з традыцыямі Захаду.



Мінская ратуша на плошчы Высокага рынку (з малюнка канца XVIII — пачатку XIX ст.).

Аўтар вельмі трапна падкрэслівае своеасаблівыя прыкметы рэнесансу ў Вялікім княстве Літоўскім, ягоную цесную сувязь з культурай Нідэрландаў і паўночнай Нямеччыны. Разглядае традыцыю барока ў перспектыве Рэчыпаспалітай. Можна крыху не згаджацца з яго інтэрпрэтацыяй класіцызму, які разумее ён як супрацьстаўленне папярэдняй эпохі, але заўвагі наконт уплыву гэтай эстэтычнай канцэпцыі на напрамак развіцця горадабудаўніцтва ў Расійскай імперыі шмат што высняюць. Вельмі цікавым здаецца раскрыццё гістарызму XIX стагоддзя, у якім аўтар адрознівае некалькі плыняў, у тым ліку і „дзяржаўны стыль“, які меў паказваць... пераемнасць рускага дойлідства ад Візантыі, сцвердзіць яго гістарычную адметнасць, што павінна было з'явіцца довадам маналітнага праваслаўнага адзінства пад скіпетрам расійскага манарха“.

Зразумела, аднак, што галоўная вартасць кнігі ў апісанні архітэктурных помнікаў. З. Пазняк характарызуе іх мастацкія каштоўнасці, а таксама знаёміць нас з іх гісторыяй, што ў выпадку архітэктуры не менш важнае.

Асобная вартасць кніжкі — гэта вельмі багаты ілюстрацыйны матэрыял. Апрача ўласных, сучасных здымкаў аўтар выкарыстоўвае таксама і даваенныя, а таксама старыя карціны і гравюры з відамі горада. Вельмі цікавыя рэканструкцыйныя малюнкі В. Сташчанюка. Гледзячы на іх, можам уявіць першапачатковы выгляд будынкаў і адчуць атмасферу старога горада.

Вельмі прыгожая мова кнігі ды стыль апісання, у якім выяўляецца сапраўдны эмацыянальны падыход аўтара да справы. У загалоўку кніжкі адзначана, быццам бы яна адрасуецца вучням, але па сутнасці яна для ўсіх, хто хаця б крыху цікавіцца даўнінай. Думаю, што з праўдзівай прыемнасцю чытаюць яе і вучоныя і дылетанты. Для гэтых астатніх вялікай дапамогай у разуменні будзе кароткі слоўнік тэрмінаў, змешчаны ў канцы кнігі. Ну, а вучні, зразумела, таксама павінны яе прачытаць.

Закрыўшы кнігу Пазняка, мы адчуваем, што нашае ўяўленне пра Мінск змянілася. Ён не выдаецца ўжо нам такім ананімным і чужым (што характэрна, на жаль, для большасці сучасных гарадоў), але адчуем у ім ўсюды рэха даўняга часу. Тут „... гучаць галасы продкаў, гамоняць муры і зямля, у якой — усё пакаленні жыццяў (...). Чулі пошчак? Гэта конь Мянеска прылятае сюды раз у год на Купалле шукаць падкову. Б'е капытамі там па замкавых каменнях, і сыплюцца іскры... Збірай іх!“ — звяртаецца аўтар да чытача ў апошнім слове.

„Рэха даўняга часу“ — гэта кніжка, якую варта ведаць. Як дапаўненне да яе раю перагледзець адзіны ў сваім родзе невялікі альбомік „Мінск на старых паштоўках“ у апрацоўцы В. Цележа (Мінск, 1984). Абедзве кніжачкі даюць нам добрае ўяўленне пра стары Мінск. Адкрываць даўнія старонкі яго — гэта абавязак, а таксама прыемнасць, якую варта пакаштаваць.

**Валянцін Сельвесюк**
Мал. У. Петрука

## АДЫЙШЛА АД НАС

# ЛЮБІЛА РАБІЦЬ ДАБРО

Пані Аня, як усе яе звалі, з Беларускім грамадска-культурным таварыствам падружыла ад пачатку. Асабліва блізкі ёй быў Беластоцкі гарадскі аддзел БГКТ, раней званы беластоцкім гуртком БГКТ. Была яго надзвычай сімпатычным прадстаўніком, яго добрым духам.

Працавала найахвотней і найвыдайней, так сказаць, на антыподах вялікага гарадскога гуртка: сярод маладых і сярод старых, сеньёраў. Была ініцыятарам стварэння пры гарадскім гуртку БГКТ клуба „сеньёра" і вызначэння аднаго дня ў тыдні ў беларускім клубе для старых, якія тут збіраліся, пілі чай, елі яе пячэнне, гаварылі па-беларуску, спявалі беларускія песні, дзяліліся перажытым. Дагэтуль існуе пры БГКТ клуб „сеньёра", а з клуба гэтага некалькі гадоў назад вырас тэатральны калектыў — цяпер ужо з немалымі дасягненнямі.

Вельмі любіла пані Аня маладых. Старалася вельмі гуртаваць беларускую моладзь вакол Таварыства, уключаць яе ў яго дзейнасць. Як клапатлівая маці, збірала маладых рабочых пад свае крылы — забяспечвала іх сходы і вечарынкі, іх патанцоўкі пахучым чаем, змешаным з пяці розных гатункаў чаю, і сваім пячэннем. Запрашала маладых у сваю хату на абед ці вячэру, была вялікім прыяцелем беларускай моладзі БГКТ.

Помню, як аднойчы затрымала мяне ў нейкім маім пастаянным бегу і сказала з радасцю: „Верачка, у нас у клубе адсвяткавалі новае вяселле. Гэта ўжо мая пятая пара беларускіх маладажонаў".

Вельмі цешылася, калі маладыя знаёміліся і падбіраліся ў



беларускім клубе. Лічыла гэта важнай (яна мела рацыю) дзейнасцю на беларускай ніве. Многа ўвагі і сіл аддавала дзецям. З яе дапамогай арганізаваліся слаўныя і смачныя беларускія ёлкі для дзяцей.

— Гэта быў добры чалавек, — гавораць знаўшыя яе. — Яна любіла рабіць дабро — хоць меншае, хоць маленькае, абы дабро.

Ці ж можна выказаць лепшы ўспамін аб пані Ані Амбражэй?

У ліпені бягучага года была яшчэ на беларускім фэсце ў амфітэатры, бо заўсёды любіла быць там, дзе адбывалася нешта па-беларуску, дзе спявалі або гаварылі па-беларуску. Яна сваю цеплыню чэрпала з беларускай дзейнасці і сваёй цеплынёй абдорвала ўсіх вакол.

60—70 гады, калі пані Аня вяла ў маленькім, цесным куточку беларускага клуба на вул. Варшаўскай 11 кавяранку з смакавітымі пончыкамі ўласнай работы, быў той час самы прыемны ў клубе, прытулак тут знаходзіла мноства моладзі і радзіліся новыя формы працы. Тады і пачала радзіцца новая мастацкая самадзейнасць Беластоцкага аддзела БГКТ.

Помню момант, бадай 20-гадовай або і большай даўнасці. „Ніва" арганізавала з'езд карэспандэнтаў у клубе на Варшаўскай. Я папрасіла паню Аню падрыхтаваць пачастунак — чай і пончыкі для 70 чалавек. Згадзілася адразу. Неяк званю, а тут кажуць: пані Аня хворая. Я спужалася: што будзе? Неўзабаве пані Аня звоніць: хворая, то хворая, але ўсё будзе як трэба. І было як трэба, а пані Аня сама абслугоўвала карэспандэнтаў і не ўзяла за тое ані граша. Такая была.

Анна Амбражэй нарадзілася ў вёсцы Пянькі — вёсцы, слаўнай сваёй беларускай дзейнасцю і барацьбой яшчэ ў міжваенны час. Уся сям'я была высокасвядомая, прагрэсіўная. Яе сястра стала пасля вайны першым трактарыстам-жанчынай у ваколіцы. А Анна, вярнуўшыся з прымусовых работ, куды маладым дзяўчом была вывезена, пачала працаваць у Беластоку. Яе праца ў Таварыстве была заўсёды ахвярная і бясплатная. Была шчырым беларускім дзеячом.

Выбіралі яе ва ўлады Таварыства — была членам ГП БГКТ і да апошніх дзён была верным членам праўлення Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ.

**Вера Валкавыцкая**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

У днях 7—9 кастрычніка г.г. у кракаўскім Палацы пад Баранамі (Галоўны рынак 27) адбудзецца кніжны аўкцыён. Ніжэй падаем — паводле аўкцыённага каталога — загалоўкі тых выданняў, якія могуць зацікавіць нашых чытачоў.

Poz. 52 — Bartoszewicz J., Szkic dziejów kościoła ruskiego w Polsce, Kraków 1880. Cena wywoławcza 1,5 tys. zł.

Poz. 86 — Bonnal H., Manewr wileński, Zarys strategii Napoleona i jego psychologji wojskowej (styczeń 1811 — lipiec 1812), W-wa 1925 C.w. 500 zł.

Poz. 92 — Borowiec S., Nad Bugiem, Walki osłonowe 7 Dywizji Piechoty (5 sierpień — 11 wrzesień 1920), W-wa 1925. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 111 — Bułhak J., Wędrówki fotografa w słowie i obrazie, I. Krajobraz wileński, Wilno 1931. C.w. 400 zł.

Poz. 125 — Chętnik A., Spław na Narwi, Tratwy, oryle i orylka, W-wa 1935. C.w. 800 zł.

Poz. 133 — Chotkowski W., Dzieje zniweczenia św. Unii na Białorusi i Litwie w świetle Pamiętników Siemaszki, Kraków 1898. C.w. 2,5 tys. zł.

Poz. 139 — Ciałowicz J., Manewr na Mozyrz i Kalinkowicze, 5.III.—12.III.1920 r., W-wa 1925. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 177 — Dąbrowski J., Bój odwrotowy nad Niemnem i Rosią 1-ej Dywizji Litewsko-Białoruskiej (21—25 lipca 1920 roku), W-wa 1933. C.w. 5 tys. zł.

Poz. 181 — Demkowski P., Bój pod Wołkowyskiem 23—24 września 1920, W-wa 1924. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 221 — Federowski M., Lud białoruski na Rusi Litewskiej. T. 1—3, Kraków 1897—1903. C.w. 12 tys. zł.

Poz. 263 — Gloger Z., Dolinami rzek, Opisy podróży wzdłuż Niemna, Wisły, Bugu i Biebrzy, W-wa 1903. C.w. 2,4 tys. zł.

Poz. 264 — Gloger Z., Podróż Niemnem, W-wa 1888. C.w. 800 zł.

Poz. 305 — Hedemann O., Dawne puszcze i wody, Wilno 1934. C.w. 800 zł.

Poz. 340 — Jabłonowski A., Polska XVI wieku pod względem geograficzno-statystycznym, T. 6, cz. 2 — Podlasie (Wojew.), W-wa 1909. C.w. 2,5 tys. zł.

Poz. 341 — Jak wyżej..., T. 6, cz. 3 — Podlasie (woj.), W-wa 1910. C.w. 2,5 tys. zł.

Poz. 365 — Kresy Wschodnie. Jednodniówka, W-wa 1933. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 422 — Kolankowski L., Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów, T. 1 (1377—1499), W-wa 1930. C.w. 4 tys. zł.

Poz. 433 — Kondratowicz L., Niemen od źródeł do ujścia, Wilno 1861 (oraz 3 inne pozycje razem oprawione). C.w. 3 tys. zł.

Poz. 447 — Korespondencyja między Stanisławem Augustem a Ksawerym Branickim... w roku 1768, Kraków 1872. C.w. 800 zł.

Poz. 464 — Kozicki S., Bój pod Lidą, W-wa 1930. C.w. 4 tys. zł.

Poz. 490 — Kraszewski J. I., Wilno od początków jego do roku 1750, T. 1—4, Wilno 1840—42. C.w. 40 tys. zł.

Poz. 549 — Lelewel J., Polska dzieje i rzeczy jej rozpatrywane, 8. Dzieje Litwy i Rusi aż do Unji z Polską w Lublinie 1569 roku zawartej, Poznań 1863. C.w. 8 tys. zł.

Poz. 561 — Lewkowicz K., Krótki przewodnik Wilno i bliższe okolice..., Wilno b.r.w. C.w. 450 zł.

Poz. 696 — Mościcki H., Pod znakiem Orła i Pogoni, Szkice historyczne, W-wa 1915. C.w. 11 tys. zł.

Poz. 697 — Mościcki H., Unia Litwy z Polską. Dokumenty i wspomnienia, W-wa b.r.w. C.w. 300 zł.

Poz. 717 — Narbutt T., Pomniki do dziejów litewskich..., Wilno 1846. C.w. 5 tys. zł.

Poz. 793 — Paszkiewicz H., O genezie i wartości Krewa, W-wa 1938. C.w. 4 tys. zł.

Poz. 802 — Pawłowicz E., Wspomnienia znad Wilii i Niemna, Lwów 1883. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 840 — Pjatidesatiletije Wilenskiego Centralnago Archiwa drewnich aktowych knig, Istoriczeskij oczerk, 2 aprila 1852—1902, Wilna 1902. C.w. 1,3 tys. zł.

Poz. 977 — Sławiński W., Zielone jeziora pod Wilnem, Wilno 1924. C.w. 1,8 tys. zł.

Poz. 1003 — Stadnicki K., Olgierd i Kiejstut, synowie Gedymina... Lwów 1870 (oraz ciąg dalszy i dodatki, poprawki wyd. w 1867 i 1873). C.w. 3 tys. zł.

Poz. 1041 — Szeptycki S., Front litewsko-białoruski 10 marca 1919 — 30 lipca 1920, Kraków 1925. C.w. 900 zł.

Poz. 1051 — Szukiewicz J., Przewodnik turystyczny po Wileńszczyźnie i Nowogródczyźnie, Wilno 1934. C.w. 150 zł.

Poz. 1690 — Mappa Generalna Gubernii mińskiey... St. Petersburg 1829 (wym. 40×47 cm). C.w. 6 tys. zł.

Poz 1693 — Mappa Generalna Gubernii Wileńskiey... St. Petersburg 1829. C.w. 6 tys. zł.

Poz 1694 — Mappa Generalna Gubernii Witebskiey..., St. Petersburg 1829. C.w. 6 tys. zł.

У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. У заказах, якія трэба кіраваць па адрасу: Antykwariat Naukowy, ul. Bracka 6, 31-005 Kraków, неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча, загаловак і найбольшую суму грошай, якую заказваючы можа заплаціць за кнігу або карту.

**Пётр Байко**

## СУМЛЕННАСЦЬ ПАНІ СІДОРСКАЙ

Іван Турчук з Рагаўкі, што каля Сямяціч, быў у Бельску за пакупкамі. Хадзіў ад крамы да крамы і купляў, што трэба было яму. Так зайшоў ён і ў краму „Гэрбаполю", што на вуліцы Міцкевіча. Купіўшы і тут, што трэба было яму, ён выйшаў на вуліцу, забыўшыся ўзяць з прылаўка свой кашалёк з грашыма і дакументамі. Зглядзела тое, але ўжо запозна, прадаўшчыца Марыя Сідорская.

Сваю згубу Турчук заўважыў толькі назаўтра. Ён успамінаў крамы, у якія заходзіў, і пытаў, ці не пакінуў кашалёк з грашыма і дакументамі. Аж, нарэшце, дайшоў і да крамы таго „Гэрбаполю". Сідорская вярнула яму кашалёк з усім, што ў ім было, а Турчук ад тае радасці хацеў даць ёй чатыры тысячы злотых за сумленнасць! Сідорская, вядома, падарунку не прыняла, хоць кліенты, якія якраз былі ў яе краме, падгаворвалі: „Бяры, кабета, калі чалавек сам дае. Ты ж нямнога зарабляеш!" Людзі чамусьці не разумелі, што гонар — гэта не грошы, ён даражэй за іх!

Марыя Сідорская, даведаўшыся па дакументах, хто гэта пакінуў у яе кашалёк, збіралася ўжо напісаць яму кароткі ліст з паведамленнем.

Калі чуеш пра такі ўчынак, то неяк лягчэй робіцца на сэрцы і пачынаеш верыць, што ўсё-такі не так кепска на нашым свеце. **Андрэй Гаўрылюк**

(Працяг са стар. 1)

## ПРЫРОДА — НАША ГНЯЗДО

Б. Рудкоўскі пакінуў таксама мне копію аднаго пісьма ў ваяводскую ўправу ў Беластоку. Яно датычыць аховы некаторых помнікаў прыроды і аднаго адрэзка ракі Белай. Яно настолькі канкрэтнае, што я хачу да ведама нашых чытачоў падаць некаторыя факты. У чэрвені бягучага года была зроблена ім люстрацыя трасы Бельск—Кляшчэлі з мэтай устанавіць тут помнікі прыроды.

І што аказалася? Два дрэвы, два валуны і адрэзак ракі Белай ад асфальтаванай дарогі Бельск—Кляшчэлі да чыгуначнага мосту лініі Бельск—Чаромха трэба прызнаць помнікамі прыроды і прыняць пад ахову.

Што аднак піша аўтар далей? „Рака Белая на спомненым адрэзку, як інфармуюць жыхары вёскі Кошкі, прызначаецца для меліярацыі. Ёсць загад павырэзваць дрэвы і кусты, якія растуць тут на берагах. А перакапанне і знішчэнне першабытнага стану ракі разам з паглыбленнем яе русла не мае ніякага апраўдання. Рака плыве прыгожымі меандрамі, выробленымі ад вякоў. Можа быць аб'ектам навуковым і турысцкім".

Даследы паказваюць, піша далей Б. Рудкоўскі, што „ўзровень глебавых вод моцна панізіўся, у калодзежах бракуе вады, ёсць сігналы і з іншых рэгіёнаў Беласточчыны аб негатыўным уздзеянні гідра-тэхнічнай меліярацыі, аб чым пісала і „Ніва" ад 6.5.84, 10.6.84 і 12.8.84". У сувязі з вышэй сказаным, прапаную анулява праект меліярацыі гэтага адрэзка ракі. Капанне ракі знішчыць таксама экалагічныя нішы іхтыяфаўны і ўвогуле ўвесь водны жывы свет. Трэба дамагацца ліквідацыі прадпрыемства водна-меліярацыйных работ у Бельску, якое, не маючы нічога да работы, нішчыць натуральныя астанкі ракі", — піша вельмі смела аўтар.

Пасля асушэння балот Беластоцкага рэгіёна настане вялікі недахоп глебавых вод, а для сельскай гаспадаркі — засуха. Прычына ў парушэнні экалагічнай раўнавагі геаграфічнага асяроддзя.

*

У пагоні за дагаджэннем сабе чалавек гатоў душу чорту прадаць. Пэўна, і не спыніцца ён перад знішчэннем прыроды, а тым самым і сябе, як часткі прыроды. Па-мойму, усё ж такі слаба растуць у нас на Беласточчыне сілы, якія былі б здольны адстаяць прыроду перад меліярацыйнымі планамі ваяводскай бюракратыі, якая на меліярацыю адводзіць вялікія грошы, а на ахову прыроды — амаль нічога. Барацьбітам за захаванне натуральнага асяроддзя застаецца адзін энтузіязм. Гэтага крыху замала. (вв)



 

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na notatkę, zamieszczoną w Waszym tygodniku w dniu 12 lipca br. pt. „Białowieżskaja kaubasa — śmierć", Zarząd Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" w Białowieży wyjaśnia:

Truizmem jest twierdzenie, że Gminnej Spółdzielni zależy na produkcji wędlin wysokiej jakości. I nie jest to tylko deklaracja Zarządu. W roku 1985 zakład masarski został gruntownie zmodernizowany, zapewniono niezbędne warunki techniczne do produkcji w poszczególnych fazach procesu technologicznego. Czas remontu zakładu wykorzystano na doszkalanie załogi.

W rozbudowanym systemie kontroli nad jakością wędlin produkowanych w Białowieży czuwa nie tylko podniebienie Waszej czytelniczki, ale też wyspecjalizowane służby. Ścisły nadzór nad zakładem sprawuje Weterynaryjny Inspektor Sanitarny, a ponadto Państwowa Inspekcja Skupu i Przetwórstwa Artykułów Rolnych, Stacja Sanitarno-Epidemiologiczna, Państwowa Inspekcja Handlowa, Inspekcja Robotniczo-Chłopska, kontrola branżowa WZGS, kontrola wewnętrzna Spółdzielni, oraz liczne kontrole społeczne. Nadzór powyższy swoim zakresem obejmuje warunki techniczne i sanitarne zakładu, ocenę jakości wyrobów — organoleptyczną i laboratoryjną tj. chemiczną i bakteriologiczną.

Wspominamy o tym, ponieważ system nadzoru sanitarnego, a także jakościowego nad produkcją, jest obiektywny i zdaniem naszym skutecznie chroni konsumenta.

Spośród setek pobranych i przebadanych w laboratoriach prób wędlin, ani jeden wynik nie potwierdził, że dana partia może stanowić zagrożenie dla zdrowia.

Dużą wagę Zarząd Spółdzielni przywiązuje do wszelkich uwag ze strony nabywców. Każda reklamacja jest bardzo drobiazgowo rozpatrywana. Reklamacja dotycząca określonego stanu faktycznego bądź też wyrobu pozwala obiektywnie rozstrzygnąć i odpowiedzieć na pytanie, dlaczego? A w konsekwencji podjąć takie działania, aby ewentualną nieprawidłowość skutecznie wyeliminować. Pozwala także na zadośćuczynienie w przypadku słuszności, reklamującemu.

Informacja zamieszczona w Waszej gazecie nie opiera się na jakimkolwiek stanie faktycznym bądź dowodowym i dlatego trudno jest do niej ustosunkować się. Generalne stwierdzenie, że białowieska kiełbasa — śmierć, wykracza poza ramy krytyki i jest po prostu oszczerstwem. Szkoda, że Redakcja „Niwy" nie jest w stanie rozróżnić tych spraw, które przecież do subtelności nie należą.

I jeszcze jedno, w piśmie z dnia 21.07.1987 r., które Wasza Redakcja skierowała do Naczelnika Gminy w Białowieży, stwierdza się: „Naszym zdaniem, nie można dawać wiary wyjaśnieniom producenta jakoby wszystko jest w porządku...".

Jest to swoiste kuriozum, jeszcze producent nie udzielił odpowiedzi, a już mu Redakcja odmówiła do niej prawa i nie tylko. Zawiera bowiem wyraźną dyspozycję dla Naczelnika Gminy. Czyżby Redakcji nieznana była ustawa Prawo Prasowe? — a może chodzi o to, że wiadomości nie prostowane można uznać za prawdzi-

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 1)

# ЗАБЫТЫ ГЕРОЙ

і гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі КПЗБ заяўляла аб сваім існаванні, вывешваючы ў публічных месцах чырвоныя сцягі. Усё гэта пагражала арыштамі і здзекамі. Па вёсках хадзіла паліцыя, „нюхала", таптала па пятах рэвалюцыянераў, шукала магчымасці, каб іх пакараць, пужала, купляла за грошы правакатараў.

У 1936 годзе пачаліся арышты КПЗБоўцаў у Сукавічах, Слоі, Паўночным Востраве, Крынках і іншых мясцовасцях. Найбольш, бо аж восем чалавек, арыштавалі ў Гаркавічах.

У той час Яўгена Несцяровіча ў Гаркавічах не было. Ужо раней ён быў узяты ў салдаты ў Сувалкі, у 41-ы полк пяхоты. Але і там яму не далі спакою. У Сувалкі прыехаў следчы і, на здзіўленне ўсіх, Яўгена выклікалі на следства. Ён, аднак, да нічога не прызнаўся і правакацыйнага пратаколу не падпісаў.

У красавіку 1937 года ў Саколцы пачаўся суд над КПЗБоўцамі. Сярод абвінавачаных быў і Яўген Несцяровіч. На судзе ўсе абвінавачаныя праявілі вялікую стойкасць. Нават Уладзімір Белакоз з Гаркавіч адмовіўся ад сваіх паказанняў, выдушаных у час следства. КПЗБоўцам далі ад 2 да 10 год цяжкага зняволення. Яўгена Несцяровіча заключылі ў турму на 2 гады, а яго роднага брата Аляксандра — на 6 гадоў. Адбывалі яны свой прыгавор у беластоцкай турме, дзе сядзела шмат КПЗБоўцаў.

12 ліпеня 1939 года Яўген Несцяровіч выйшаў на свабоду. У жнівеньскі вечар гуляў ён па вуліцы са сваёй дзяўчынай Верай Суравец. Невядома адкуль узяўся паліцэйскі, які зацягнуў яго за вёску і стаў дамагацца супрацоўніцтва з паліцыяй, інфармавання аб усіх падазроных гаркавічанах. Не дабіўшыся ад Яўгена згоды на супрацоўніцтва, паліцыя на другі дзень усё перавярнула ў яго хаце. Яго і яшчэ 6 асоб пагналі ў Шудзялава. Там Яўгену надзелі кайданы і пагналі аж у Камянку, а адтуль — у Саколку. Што тады думаў ён, як адчуваў сябе, лепш не гаварыць:

„У Саколцы мяне і Лёніка Прыгыцкага з Гаркавіч скавалі разам, яго руку з маёй рукою і завезлі нас аж у Брэст, а адтуль — у Картуз-Бярозу. Убачылі мы там худых, змучаных, збітых людзей і агарнуў нас жах. Нас адразу папярэдзілі, што біццё і цяжкія здзекі над палітычнымі вязнямі адбываюцца штодзённа. Ды апрача ўсяго гэтага, палітычных зняволеных перамяшалі з крыміналістамі, здольнымі на ўсякую нікчэмнасць. У зале было нас 72 чалавекі. Выпускалі нас на двор, а пасля заганялі ў загарадзь, быццам жывёлу. Часта трэба было праходзіць праз біцейныя калідоры, у якіх паліцыя збівала вязняў часамі да непрытомнасці.

Давялося б хутка загінуць, калі б не пачалася вайна і не наблізілася Чырвоная Армія, вызваляючы Заходнюю Беларусь. Заправілы з Картуз-Бярозы ўцякалі ў страху, а мы выйшлі на свабоду, — успамінае Яўген Несцяровіч. — Адна з нашых груп накіравалася ў напрамку Баранавіч, а пасля Ваўкавыска. Між намі былі два яўрэі, ім іхныя знаёмыя арганізавалі сустрэчу, у якую ўключыліся ўсе прыбыўшыя картузбярозаўцы. Тут мы зрабілі супольны памятны здымак.



**Памятны здымак КПЗБоўцаў, выйшаўшых з Картуз-Бярозы. Другі справа ў верхнім радзе — Яўген Несцяровіч.**

З Ваўкавыска памаленьку даплёўся Яўген Несцяровіч да Гаркавіч. І так закончылася адна эпоха яго жыцця, якая пакінула цяжкі асадак у памяці.

Гаркавіцкія КПЗБоўцы, што асталіся на гаспадарцы, арганізавалі калгас, членам яго стаў і Яўген Несцяровіч. У 1940 годзе ён ажаніўся з Верай Суравец. Жылі мірна і спакойна, як і павінна быць сярод сумленных людзей.

(Заканчэнне ў наступным нумары)

**Міхась Хмялеўскі**

жакі не надта ж давяралі сваім новым надданым і ў маланкавым тэмпе пачалі ўзводзіць магутную крэпасць Мар'енвердэр на сумежжы Вялікага княства і Жмудзі, узмацнялі таксама іншыя пагранічныя крэпасці. Такім чынам яны замацоўвалі сваё ўладанне над Жмуддзю і яе адрыў ад Вялікага княства. Відаць, адначасова з тым, як раслі таўшчэзныя сцены Мар'енвердэра і іншых крыжацкіх умацаванняў, даспявала і паразуменне паміж Кейстутавічам і і Альгердавічам. І ў пачатку ліпеня 1384 г., вылучыўшы найбольш зручны момант, Вітаўт разам з сям'ёю ды баярамі падаўся ў Вільню, палячы на развітанне з крыжакамі іхнюю крэпасць Мар'енбург і беручы ў палон некалькіх знатных рыцараў. Ягайла прыняў перабежчыкаў з распасцёртымі абдымкамі. Вітаўт падпарадкаваўся яму як вялікаму князю і атрымаў ва ўладанне свой ранейшы ўдзел: Гарадзеншчыну, Бельшчыну, Дарагічыншчыну і Берасцейшчыну ды пасля смерці князя валынскага Любарта-Дзімітрыя Ягайла даў яму Луцкае княства.

Так! Гэта не памылка. Чэрская княжацкая пара Януш і Данута-Анна цешыліся панаваннем на сярэднім Пабужжы і Панароўі ўсяго год часу. Пралічыліся яны, спадзеючыся дапамогі крыжакоў, якім і ў думках не было сваімі сіламі ўзмацняць мазавецкага князя. Таксама не даў ім дзейснай падтрымкі Янушаў родны брат Семавіт, бо ў той час быў цалкам заняты змаганнем за кракаўскі трон.

Ці аддалі яны гэты набытак пад пагрозаю з боку Ягайлы і Скіргайлы, ці страцілі ў выніку прайгранай з імі бітвы — няма пэўнасці. Аднак нельга не згадаць хоць і блытаны, але ўсё ж цікавы запіс у „Хроніцы Быхаўца". Чытаем там: „І сядзеў Ягайла на ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Пачаў ён барацьбу супраць Мазоўша і Польшчы за тое, што князь мазавецкі з польскай дапамогай узяў Дарагічын і Мельнік. І шмат разоў хадзіў у Польскую зямлю, і шкоды вялікія чыніў у землях Польскай і Мазавецкай, і кровапраліццё на хрысціянах веравызнання рымскага, пачаўшы ад граніцы Вялікага княства і аж да ракі Віслы".

Далей жа знаходзім легенду пра паходжанне назвы мясцовасці Завіхост на Вісле і яго здабыццё Ягайлавымі воямі.

„І прыйдзе (Ягайла) да ракі Віслы насупраць Завійхвоста з вялікім войскам. І пачалі разважаць як перайсці рэчку. Адзін вой сышоў з каня ды абвіў сабе вакол рукі конскі хвост і кажа: „Тут вадзе не бываць". Ударыў каня і мігам пераплыў з канём рэчку. І войска, паглядзеўшы на таго свайго сябру, кожны тую рэчку з коньмі сваімі такім самым спосабам хутка пераплылі. Пераплыўшы Віслу, падыйшлі пад горад Завійхвост. І сказаў князь Ягайла: „Не трэба нам гэты горад гарматамі здабываць". Загадаў ён усяму войску свайму, каб кожны кій узяў і кінуў у горад. Такім чынам поўны горад кіёў накідалі ды падпалілі яго. Спаліўшы Завійхвост, пайшоў (Ягайла) пад Апатаў і таксама спаліў яго і іншыя многія месты і сёлы знішчожыў аж да самай Віслiцы".

Вядома, старажытны польскі горад Завіхост займеў назву не ад завітага конскага хваста Ягайлавым воем у 1383 годзе, бо ў той час гэтаму гораду было сама менеій чатырыста год, і яго з такой назвай дакументы аднатоўваюць ужо ў 1148 г. Таксама да воінскага фальклору трэба аднесці абразок пра закіданне Завіхоста кіямі. Аказваецца, што няслаўнае „шапказакідацельства" — гэта не выдумка фанабэрыстых ваякаў з нашага стагоддзя! Але нельга не адзначыць, што гэтае закідванне кіямі Завіхоста воямі вельмі маляўніча падкрэслівае шматлікасць Ягайлавай арміі падчас нашэсцяў на польскія землі.

А мы, вяртаючыся на наша Пабужжа і Панароўе, запытаем: ці суняўся бунтаўнічы дух Вітаўта, калі ён вярнуўся на бацькаўшчыну? Так, але ненадоўга.

**Мікола Гайдук**

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ЗАКАНЧЭННЕ

Амаль два з паловай гады друкаваў я ў „Ніве“ адрэзкі „Беларускага фальклору“. Абапіраўся пры гэтым выключна на ўсходнебеластоцкім беларускім фальклоры, хаця час ад часу канфрантаваў такія ці іншыя мясцовыя з'явы з фальклорам агульнабеларускім ці польскім. Багацце матэрыялу дазваляе мне сцвердзіць, што беларусы з усходняй Беласточчыны стварылі вельмі цікавы і багаты фальклорна-абрадавы комплекс, які выстаўляе як найвышэйшую апінію інтэлектуальным і мастацкім здольнасцям нашых продкаў і сучаснікаў.

Не магу паўстрымацца, каб не выказаць глыбокую ўдзячнасць усім інфарматарам, сярод якіх многія ўжо адыйшлі назаўсёды з жыцця: з Рыбакоў, з Бандароў, з Багнюкоў, з Лукі, Семяноўкі, з Круглага Ляска, з Слабодкі і з дзесяткаў-дзесяткаў беларускіх вёсак, інфарматараў, якія перадавалі мне свае веды, свае заўвагі, свае ўяўленні і свае містыфікацыі, звязаныя з фальклорнымі тэкстамі, абрадамі, з падыходам да зямнога і пазазямнога існавання. Не магу не падзяліцца з чытачамі адной сваёй заўвагай, якая адносіцца да тых людзей, да якіх я звяртаўся на працягу дзесяткаў гадоў сваіх фальклорных зацікаўленняў. Справа ў тым, што аднолькава бясплоднымі аказаліся мае кантакты як з атэістамі, так і з фанатычна веруючымі. Хаця гэтыя дзве катэгорыі асоб зыходзілі з зусім супрацьстаўных пазіцый, то ў канчатковым эфекце сутыкаліся ў тым самым пункце негацыі фальклорных пошукаў і фіксацый. І так, атэісты, да якіх я звяртаўся з такімі ці іншымі фальклоразнаўчымі пытаннямі, адказвалі мне прыблізна так, як жыхар вёскі Бандары Пётр Бура: „Перастань займацца гэтай ерундой. Нашто табе гэты раі і пеклы, калі ведомо, што ўсё гэта дурацкія сказкі, прыдуманыя тымі, хто хацеў налажыць абротку на чалавечы розум“. Аргументацыя моцна веруючых была зусім супрацьстаўная. Выступіла яна, між іншым, у выказванні жыхара вёскі Гарбары, званага ў нас Соркавым Ёзікам: „Ні буду з табою гаварыці аб гэтом. Усё, што хочэш ведаці аб душы, аб раеві і пеклаві, апісана ў свентых ксенгах. От туды і заглядай, калі хочэш чагось разумнаго даведацца. Вадомо, што многі нашы людзі плетуць Бог ведае што аб гэтом, але тым самым толькі грэх беруць на сваю душу. Не, Шурык, хоць я і шаную і цебе і твого бацька, але аб гэтом я з табою гаварыці ні буду“.

Варта падкрэсліць, што асоб, якія належаць да гэтых двух супрацьстаўных катэгорый, сустракаў я не многа. Наогул нават тыя людзі, якія спачатку праяўлялі сваю абыякавасць ці нават варожасць да маіх фальклоразнаўчых ініцыятыў, з цягам часу змянілі свае адносіны і з вялікай шчырасцю і адкрытасцю аддаваліся разважанням, якія выходзілі далёка за рамкі ведаў, пачэрпнутых з казанняў, з навукі Божага закону ў школе або з прачытаных фрагментаў Бібліі ці іншых рэлігійных кніг.

Плеяда некалькіх тысяч інфарматараў, ахопленых нашымі даследаваннямі, анкетамі, размовамі, аказалася той цудоўнай соллю беларускай зямлі, якая надае сэнс, вітальнасць, энергію нашаму адвечнаму існаванню. Хацеў бы я ўспомніць добрым словам настаўніка з Рыбакоў, жыхара вёскі Багнюкі Міхала Грыку, які ўжо ў 1946 годзе заахвочваў мяне збіраць фальклор. Гэта пад яго ўплывам ужо тады зрабіў я першыя запісы. Не магу не ўспомніць і аб Мсціславе Аляхновічу, выкладчыку Рускай філалогіі Лодзінскага універсітэта, які мяне, студэнта гэтай філалогіі, у 1951 годзе інструктаваў у справе фальклорнага анкетавання і запісаў тэкстаў. Гэта яны, Грыка і Аляхновіч, — айцы зробленага мною ў галіне даследаванняў нашага скарбу — беларускага фальклору.

**А. Баршчэўскі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, прабач, што я не ў зусім „сэрцавай“ справе, але ж каханне свайго дзіцяці гэта таксама справа сэрца.

• Я — настаўніца, працую ўжо 15 год у пачатковых класах. Распачаўся нядаўна новы навучальны год, і гэта менавіта прымусіла мяне напісаць пісьмо ў рэдакцыю. Раблю гэта абсалютна свядома, бо хачу, каб ты адказала на мае пытанні (на якія я фактычна і сама маю адказ) адкрыта і галосна, каб пачулі ўсе маці.

Для кожнай маці пачатак вучобы свайго дзіцяці ў школе — гэта вялікая падзея. Яны рыхтуюць сваіх дзяцей да школы, купляюць ім усё неабходнае, расказваюць, як будзе цікава ў школе. І вось наступае пара, калі маці з дзіцём прыходзіць першы раз да настаўніцы. І ў гэтым моманце я як настаўніца ахвотна замянілася б прынамсі з паловай матуляў, якія прыводзяць дзяцей у школу. Менавіта, прынамсі 50 працэнтаў гэтых матуляў пачынае са мной размову ад таго, што дзіця надта далікатнае, што да яго патрэбны асаблівы падыход, што яно вельмі здольнае і не кожная настаўніца яго зразумее. Некаторыя мамы пераконваюць, што яе дзіця хваравітае, што нельга на яго крычаць, бо барані Божа, каб знервавалася.

Мілыя мамы! І як пасля гэтага ўсяго можна нармальна працаваць з дзецьмі? Для кожнай жа маці — сваё дзіця найдаражэйшае ў свеце, а настаўніца павінна падзяліць сваё каханне прынамсі на сорак сваіх вучняў (маю тут на думцы клас, у якім яна з'яўляецца выхавацельніцай). Настаўніца такая, як я, з 15-гадовым стажам, больш-менш ужо ведае, як падзяліць гэтае каханне да сваіх вучняў. І калі нехта прыходзіць і просіць звярнуць увагу на яго дзіця з асаблівым націскам, то гэта, на жаль, можа толькі адапхнуць настаўніцу ад гэтага дзіцяці. Хачу сказаць, што для добрай настаўніцы ўсе дзеці роўныя, усе дзеці нашы. Калі дзіця акажацца надта здольным, то гэта і так выявіцца вельмі хутка і ўсе маміны персвазіі тут абсалютна лішнія. Сэрцайка, прашу цябе, дай гэтым мамам нейкі адказ і стань на маім баку!

**Настаўніца з Беластока**

Дарагая наша **настаўніца!** Тваё пісьмо, напэўна, падыктавана шматгадовым вопытам. Калі ты напісала нам — значыць, накіпела! Уяўляю сабе, з якім страхам чакаеш ты першага дня вучобы. А такога ж, здавалася б, урачыстага дня: калі мамы прыводзяць сваіх дзяцей першы раз у школу. Думаю, што на ўсе гэткія персвазіі закаханых у сваіх дзяцей мамаў ты даўно ўжо знайшла адказ: бадай, проста стаіш ды ўсміхаешся, бо што ж яшчэ можа вымавіць такая шчаслівая настаўніца, у клас якой трапіла прынамсі 50 працэнтаў геніяў! Бедныя вы людзі, бо нават такі ясны промык, як пачатак новага навучальнага года, калі не трэба яшчэ пытаць дзяцей і задаваць ім заданне дахаты, патрапіць засланіць вам нейкая грозная мама са сваім вундэркіндам, якога прывяла за ручку. Думаю, аднак, што калі перажыла ты гэта ўжо 15 разоў, то перажывеш і яшчэ 15. А пасля ўжо і эмерытура будзе. А мамам магу сказаць толькі адно: для большасці мамаў свае дзеці — найразумнейшыя, найпрыгажэйшыя, найлепшыя! А толькі таму ім так здаецца, што іншых дзяцей амаль не ведаюць.

Усе дзеці — кветкі нашага жыцця.

**Сэрцайка**

## СОННІК

—92—

**Пудзель** — вернае каханне.

**Пудзіла** (страх) на птушкі — неспакой, устрывожанасць.

**Пудра** — марнатраўства; пудрыцца — скрываць благі ўчынак.

**Пунш** (понч) — шчаслівыя хвіліны; нарыхтоўваць — цябе выкарыстоўваюць іншыя.

**Пупок** — благія звесткі.

**Пурпур** — рэч, якой немагчыма дабіцца.

**Пускаць** кроў — ліхвяры.

**Пустазелле** — страты.

**Пустыня** — цябе пакінуць сябры; цяжкія часы.

**Пустэльня** — не аддаляйся ад людзей; пустэльнік — няздзейсненыя надзеі; быць ім — ціхае шчасце.

**Пух** — дастатак; нясе яго вецер — страта маёмасці.

**Пухір** на целе — здароўе.

**Пчолы** — добры знак; быць пажаленым імі — спрэчкі з сябрамі; працуюць — прыгожая будучыня; рой — добры плён; лавіць — вялікія даходы; забіваць — няшчасце.

**Пшаніца** — дабрабыт.

**Пыл** — сямейныя спрэчкі.

**Пэндзаль** — непрыемнасць у кампаніі.

**Пэрлы, жамчужыны** — слёзы.

**Пякарня** — пазбудзешся шматлікіх клопатаў.

**Пялёнкі** — павелічэнне сям'і.

**П'яніца** — назойлівы госць.

**П'яным** быць самому — багацце; п'янага бачыць — шкоды па чужой віне.

(Працяг са стар. 7)

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

we? Pismo powyższe udostępniono Zarządowi na jego żądanie.

Wasza notatka spowodowała swoistą lawinę kontroli, w związku z czym Zarząd Spółdzielni ma nadzieję, że instytucje kontrolujące obiektywnie powyższą sprawę wyjaśnią.

Zarząd Spółdzielni liczy, że Redakcja „Niwy" zamieści stosowne sprostowanie. W przypadku niesprostowania, zmuszeni będziemy wystąpić z odpowiednim roszczeniem na drogę postępowania sądowego.

**Gminna Spółdzielnia**
**„Samopomoc Chłopska"**
**w Białowieży**
**Zarząd**

**Ад рэдакцыі.** Гэта прыклад, як некаторыя рэагуюць на крытыку: злуюць і палохаюць судом! „Ніва“ ўсім дае голас, няхай самі чытачы судзяць, хто махлюе, а хто праўду кажа. Такая роля газеты, публічнасці слова, бо толькі так магчымая крытыка і апраўданне. Але белавежскаму ГСу, як відаць, не важна тое, што думае і піша пра яго кліент, асабліва калі гэты кліент не хваліць тыя каўбасы. Куды гэта падзеўся кліч: „Кліент заўсёды мае рацыю!“ — пытаем.

Не будзем палемізаваць наконт культуры ГСаўскага адказу, не будзем абражацца, разумеючы, што кожнаму дадзена права для абароны. Трэба, аднак, дадаць, што ўсе гэтыя кантролі, якія наклікала наша публікацыя, напэўна не пашкодзілі якасці мясных вырабаў у Белавежы. Наша задаволенасць яшчэ і ад таго, што друкаванае слова ўсё-такі не застаецца глухім.

### ДЛЯ НЕЦВЯРОЗЫХ ВАДЗІЦЕЛЯЎ

У ЗША зроблен электронны прыбор, які, магчыма, заменіць вядомыя аналізатары дыхання (трубкі з хімікатам, які мяняе свой колер) для выяўлення нецвярозых вадзіцеляў. Гэта некалькі спрошчаны электраэнцэфалограф. Два электроды, якія накладваюцца на скроні, улоўліваюць біятокі мозга, а ўбудаваны мікракамп'ютэр выяўляе прысутнасць характэрных хістанняў, якія сведчаць аб тым, што чалавек нядаўна ўжываў спіртное.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## ЯК ЖЫЛІ НАШЫ ПРОДКІ

Першыя людзі на землях Беларусі з'явіліся больш як 40 тысяч гадоў назад. Аб гэтым сведчаць старажытныя прылады працы з крэмню і касцей, якія часам сустракаюцца на берагах рэк і азёр. Бясспрэчна сляды палеалітычнага (старажытнакаменнага) паселішча знойдзены ў 1926 годзе вядомым беларускім археолагам К. М. Палікарповічам.

Адным цёплым летнім днём праводзячы пошукі археалагічных помнікаў уздоўж даліны Сожа на Гомельшчыне, Канстанцін Міхайлавіч спыніўся каля пастуха, які пасвіў чараду, каб спытаць пра дарогу, і... анямеў ад нечаканасці: пастух адпачываў на вялізным чэрапе маманта! Аказалася, што непадалёку адсюль, на поўдзень ад вёскі Падлужжа Чачэрскага раёна, у глыбокім яры ў час паводкі або навальнічных дажджоў вада не раз вымывала вялізныя косці невядомых мясцоваму насельніцтву звяроў і расчапаныя крамяні, апрацаваныя старажытным чалавекам. Першыя ж раскопкі пацвердзілі здагадку вучоных — тут была стаянка каменнага веку.

... Амаль 25 тысяч гадоў назад — гэта дакладна вызначана з дапамогай радыевуглярoднага аналізу (С-14) — на схіле яра, уздоўж якога раслі невялікія дрэўцы, спынілася група першабытных паляўнічых, што блукалі ў пошуках месца прыдатнага для новай стаянкі. Тэм, дзе яны жылі раней, усё радзей траплялiся жывёлы, амаль не засталося ядомых карэнняў, на вогнішчах былі спалены апошнія дрэвы. А час быў суровы. Ледавік, які няўмольна насоўваўся з поўначы, нібыта панцырам скаваў зямлю і знішчыў пад сабой усё жывое.

На дзіва ўтульны яр спадабаўся вандроўнікам. Тэрасападобны ўступ надзейна ахоўваў ад ледзяных паўночных ветроў, побач была рака. Пачалі будаваць жытло. У аснову клалі мамантавыя чэрапы, якіх археолагі пры раскопках знайшлі больш як 30.

Чэрапы першабытныя людзі здабывалі пры паляванні ці бралі ад шкілетаў загінуўшых жывёлін. Каркас жытлоў будавалі з сукоў, мамантавых рэбраў і іклаў, якія замацоўвалі сухажыллямі або скуранымі паскамі. Зверху жытло накрывалася шкурамі ўпаляваных буйных звяроў. Зверху і па краях жытла шкуры прыціскаліся касцямі. Унутры раскладвалася вогнішча. Нават у самую лютую сцюжу тут было цёпла і ўтульна.

Жыць на новым месцы было цяжка. На ўліку кожная косць, кожны кавалак дрэва. Косці жывёл выкарыстоўваліся ў якасці паліва, з іх выраблялі розныя прылады працы, напрыклад, з птушыных — шылы, неабходныя пры шыцці вопраткі і абутку. З больш шырокіх рэбраў атрымаліся землекапалкі, якімі жанчыны выкопвалі ядомыя карэнні. Націснеш вострую косць, і ад вялікага крэмня адкальваюцца прыдатныя для далейшай апрацоўкі пласцінкі і адшчэпы.

І ўсё ж асноўнай сыравінай для вырабу прылад працы быў крэмень, які здабывалі ў гэтай мясцовасці. З дапамогай сколаў старажытныя майстры, здавалася б, са звычайных крамянёвых пласцінак выраблялі разнастайныя нажы, разцы, скрабкі, наканечнікі дзідаў.

Шмат розных спраў даводзілася рабіць у гаспадарцы за адзін дзень: падрыхтаваць прылады для палявання і рыбнай лоўлі, адрамантаваць вопратку, замацаваць сцяну будана, пашкоджаную ветрам, назапасіць дроў для вогнішча. Часам трэба было займацца і землянымі работамі. Каб падтрымаць чысціню

(Працяг на стар. 10)



ACEННІ РОДНЫ КРАЯВІД



Шырокі прастор зямлі і неба каля вёскі Пасачнікі Вялікія.

Фота У. Завадскі

Пятро Прыходзька

### ЖУРАВІНКА

Мох увосень засыхае
І жаўцеюць верасы.
Журавінка ж не губляе
Круглы год сваёй красы.

Расцвітае белым цветам
На балоце пад сасной.
І вясной і спелым летам
Умываецца расой.

А калі надыдзе восень,
Заімжыцца над зямлёй, —
Журавінка ў дом прыносіць
Многа чырвані сваёй.

І зімою лашчыць вока,
Як мятуць наўкол снягі.
Журавінным смачным сокам
Запіваем пірагі.

## Вучнёўская творчасць

### У ШКОЛУ

Скончылася лета,
мы ідзём у школу —
у дарагую школу
ідзём зноў вучыцца.

Будзем мы вучыцца,
будзем весяліцца,
будзем мы гуляць,
песенькі спяваць.

**Ала Гайдук, вуч. IV кл. Пачатковай школы ў Ласіцы**

### САКРЭТ НАЗВЫ

Аднойчы я з мамай пайшла ў лес па ягады. Быў прыгожы сонечны дзень. Ад раніцы было халаднавата, а калі сонца паднялося вышэй соснаў, зрабілася вельмі горача, хацелася піць.

Раптам я ўбачыла прыгожы куст з ружовымі краскамі і дзенідзе на їм ягады. Я пачала клікаць маму:

— Мама! Мама! Глянь, якія прыгожыя краскі і ёсць нават ягады.

Мама сказала:

— Дачушка, дык жа гэта шыпшына!

— А чаму ён завецца шыпшынай?

І мама адказала:

— Таму, што ён мае калючыя шыпы.

Мы нарвалі красак шыпшыны і весела пакрочылі дадому.

На дарозе ехаў аўтобус. Мы паднялі рукі, аўтобус спыніўся. Мы селі ў аўтобус і прыехалі дадому з ягадамі чарніцаў і з букетамі шыпшыны.

**Інэса Пышко, вуч. 4 класа г. Слонім, БССР**

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ




Падобная на лук. Адным канцом бандурка клалася на ніжнія зубы, а адкрыты рот служыў рэзанатарам. Гралі так: указальным пальцам правай рукі кранаді струну, а ротам рэгулявалі гук.

Бытавала бандурка на Палессі.

(Працяг са стар. 9)

## ЯК ЖЫЛІ НАШЫ ПРОДКІ

ў паселішчы, косці і розныя адыходы не пакідалі дзе папала, а хавалі ў спецыяльных ямах. У такіх жа ямах, прыкрыўшы



іх шкурамі ці галлём, захоўвалі мяса. Капалі ямы і для іншых мэт.

Найбольш насычаным і важным перыядам гаспадарчай дзейнасці нашых далёкіх продкаў была восень. Трэба насушыць грыбоў, ягад, ядомых раслін, нававндзіць як мага больш мяса, бо наперадзе — доўгая і надзвычай суровая зіма. І калі ўсё было падрыхтавана, супляменнікі збіраліся ў свае буданы, грэліся каля вогнішча, а часам і спявалі пад акампанемент бубнаў і розных касцяных свісцёлак і дудачак свае песні.

**А. Калечыц**
**Мал. пав. Т. Сянькоўскага**

**Заданне:**

***Што вы даведаліся з прачытанага артыкула пра сваіх далёкіх продкаў?***

***Што сведчыць аб тым, што нашы продкі 40 тыс. год таму былі „людзьмі разумнымі“ (homo sapiens), што сведчыць аб іх некаторым цывілізацыйным узроўні?***

***Ці ў вашай ваколіцы ёсць нейкія астанкі старых пасяленняў, ці хто што знайшоў у зямлі? Напішыце пра гэта.***

## РОДНАЯ ПРЫРОДА




### ЗАЙЧЫК

Сядзеў зайчык пад кустом,
На свет азіраўся,
— Чаму ж я такі бяздарны? —
Сабе дзіваваўся.

— Як шалесне ліст сухі,
Як трэсне галінка,
Дык абхватвае мяне
Страхам, як маланкай.

Па баках усё гляджу,
Вытрашчыўшы вочы,
І вушамі я стрыжу,
Як сава ўночы.

Хоць не ўбачу і нічога,
Ногі паднімаю —
Яшчэ раз з увагай
Усюды спаглядаю.

Пасля ў ногі як я дам,
Высока ўзнімуся,
Бягу скора, дзе папала.
Як віхор нясуся.

**Барыслаў Рудкоўскін**
**Мал. аўтара**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Вучні рашалі задачу.
У канцы ўрока настаўнік спытаў:
— Якога варэння купілі больш, абрыкосавага ці малінавага?
Сярожа адказаў:
— Малінавага купілі больш, таму што яно смачнейшае.

— ✻ —

Маці:
— Настаўніца спеваў паскардзілася, што ты заснуў на ўроку. Гэта праўда?
Сын:
— А што мне было рабіць, калі ўвесь клас спяваў калыханку?

— ✻ —

На ўроку геаграфіі настаўнік паказваў на карце ўсе рэкі Савецкага Саюза. У канцы ён спытаў у Тані, дзе знаходзіцца Волга?
Вучаніца не задумваючыся, адказала:
— У гаражы.




Дзяніска і Андрэйка пайшлі лавіць рыбу. Нехта сказаў ім, нібыта ў вадасховішчы, што ў Зялёным Лузе на ўскраіне Мінска, водзяцца карасі і плоткі.

Дзень быў спякотны, на небе ні хмурынкі. Хлапчукі пакупаліся ў цёплай вадзе. Потым закінулі вуды і селі чакаць, калі рыба пачне брацца. Недалёка ад іх прыхала чародка вераб'ёў. Шугаюць да вадасховішча, рассыпаюцца па пясчаным беразе, скок-скок у ваду, страпянуцца — пырскі аж на пясок ляцяць. І раптам сарвуцца ўгору, нібы магутны віхор садзьмуў іх. Апусцяцца на парыжэлую ад сонца траву і шчыруюць у пошуку спажывы.

Рыба не клявала. Дзяніска і Андрэйка амаль задрамалі. І тут над іх галовамі матнуўся цёмны цень. Хлапчукі ўбачылі, як вялікі каршун кінуўся да чародкі вераб'ёў. Тыя пырхнулі ўгору і рассыпаліся хто куды. Каршун крута рвануў у неба, павольна паплыў у бок лесу.

Дзяніска паспеў убачыць, што адзін верабейка ледзь-ледзь не трапіў у каршуновыя кіпцюры. Пад самым драпежнікам ён кульнуўся ў паветры і каменем упаў каля куста. Дзяніска пабег паглядзець, што здарылася з верабейкам, можа, аб вострыя кіпцюры параніўся — дапамагчы трэба яму. Падбег да куста, бачыць: ляжыць верабейка на траве дагары, падагнуўшы лапкі. Дзяніска нахіліўся, каб узяць верабейка, а той імгненна ажыў, сігануў з-пад самых рук угору і знік у блакіце.

**Алесь Ставер**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, кв. 646, Вераніка Ядлоўская, 3 клас.

— ✻ —

БССР, 231800, г. Слонім-1, вул. Чырвонаармейская, 85-А, кв. 35, Аня Зіміна, 6 клас.

— ✻ —

БССР, 231800, г. Слонім-9, вул. Камсамольская, 28, кв. 1, Лена Сяменік, 5 клас.

— ✻ —

БССР, 231800, г. Слонім-9, вул. Камсамольская, 66, кв. 1, Оля Орда, 7 клас.

— ✻ —

БССР, 231800, г. Слонім-6, вул. Дабрыяна, 6-А, кв. 1, Наташа Цішко, 6 клас.

— ✻ —

БССР, 231800, г. Слонім-6, вул. Дабрыяна, 8-А, кв. 1, Оля Русак, 6 клас.

— ✻ —

БССР, 231800, г. Слонім-6, вул. Карбышава, 21, кв. 1, Іна Адаська, 6 клас.




Прачытаўшы гэта рэбус, вы атрымаеце цікавую прымаўку аб хлебе.

## КАПАННЕ БУЛЬБЫ



Гэты здымак „Зорка“ зрабіла пару год назад на полі вёскі Трасцянкі, дзе бульбу памагалі капаць вучні мясцовай школы. На здымку бачым вучняў старэйшых класаў, якія ўжо цяпер пакінулі школу ў Трасцянцы. Цікава, дзе яны цяпер? Можа адазвуцца?

**Фота Я. Чэрнякевіч**

З суседскага агародчыка

# ДЭФІЦЫТ

У чарзе купіць машыну
Стаяць кабеты і мужчыны.
Адным словам, людна,
Чарга ж паўзе марудна.
І каб хутчэй прабавіць час,
Адзін дзядок вядзе расказ:
— Дазвольце, вас я запытаю:
Чаму машын нам не хапае?
А помню я: ў пяцідзесятым —
Як гасцяваў у свайго свата —
Па магазінах пахадзілі,
Дык проста з дзіваў было дзіва:
Стаяць машыны упавалку,
І дэфіцыты на прылаўках,
Машын тых колькі выпускалі? —
А ў магазінах шмат стаяла.
Цяпер — мільёны „Запарожцаў",
„Волгаў", „Лад",
І „Ніў", і „Масквічоў" на розны лад.
Але вазьмі — купі ты „Ладу"
Без той чаргі, альбо без блату!
Дык — не-е!
Цяпер — не тое, што даўней-ей!..
Юнак перад дзядком стаяў,
Рот ад здзіўлення разявіў.
Як дзед замоўк — не утрымаўся,
Узяў дый запытаўся:
— Чаго ў чарзе тады гібець? —
Маглі б даўно машыну мець,
Чаму ж не, дзед, не прыдбаў?
Дзядок хлапчыне адказаў:
— Яна была мне без патрэбы,
Тады хацеў я, ўнучак, хлеба.

**Іван Стадольнік**




# НІЎКА



— Я, пане дырэктар, хацеў бы выступіць у вашым цырку.

## ХАЛОДНЫ ПРЫЁМ

Недаверліваму мужу данеслі, што ў гэты час яго жонка прымае ў сябе мужчыну.

Той папёр дадому. Ашаломленая жанчына хавае свайго госця ў халадзільнік. Недаверлівы гаспадар перавярнуў усё ў хаце, урэшце адчыняе халадзільнік і крычыць з горыччу!

— Значыць, гэта праўда! Прымаеш мужчыну! І гэта каго? Майго смяротнага ворага!

— Дык бачыш, што я яго прыняла холадна.

## ПРАЛІЧЫЎСЯ

— Пане дырэктар, учора бачыў нашага Дзівакуна ў рабочы час у кіно.

— Тады перадай Дзівакуну, што яму, як і табе — вымова!

## МЕРКАВАННЕ

Убачыўшы згорбленую бабульку, дачка запыталася ў маці:

— Мама, гэтая бабулька таксама калісьці няправільна сядзела ў школе за партай?



Made in Zadrypanka.



Ён заўсёды быў рады паспрачацца з тым, хто з ім ва ўсім згодны.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Суддзя да абвінавачанага:
— Ці не маглі вы задаволіцца грашыма і не забіваць сваёй ахвяры?
— На жаль не, пане суддзя. Надта ж моцна верашчала.

— ✻ —

Выйшаўшы з кінатэатра, дзе ішоў фільм з вядомым амерыканскім комікам, нейкая пані звяртаецца да мужа:
— Гавораць, што гэты акцёр зарабляе ў дзесяць разоў больш за міністра. Гэта праўда?
— Так.
— Лічу, што гэта непрыстойна.
— Чаму? Артыст таксама ў дзесяць разоў смяшнейшы!

— ✻ —

Прадстаўнік фірмы да гаспадыні:
— Прапаную нязвыклую машыну. Нават дзіця патрапіць прывесці яе ў рух.
— А можа маеце такую машыну, якую дзіця не патрапіць прывесці ў рух?

## АСЦЯРОЖНЫ

— Чаму ў цябе такія напухшыя далоні?
— Быў на сходзе. Гаварыў прамовы наш дырэктар...
— І так добра гаварыў?
— Што гаварыў, дык я не вельмі ведаю, але ўвесь час глядзеў на мяне...

## СПАЧУВАННЕ

— Вельмі ж ужо несімпатычная гэта жанчына. Спачуваю яе мужу...
— Не больш чым я...
— Вы ведаеце яго?
— Гэта я — той муж.

З „Весніка Задрыпоніі"

## СПОРТ

Мінулай зімою на міжнародных спаборніцтвах па канькабежнаму спорту ў г. Сідбергу, на жаль, слаба выступіла на дыстанцыі 3 тыс. метраў Марына Хуткевіч: ёй перашкодзіў моцны вецер, які дуў Марыне ў твар, а нарвежскай спартсменцы, якая бегла з ёй у пары, — у спіну.

З суседскага агародчыка.




## МІНІВЕРШЫ

### ІНДЫК І ЖУРАВЕЛЬ

Індык, убачыўшы пад хмарай жураўля,
Пытаецца:
— І там зямля?

### ПАКЛЁПНІК

Паклёпнік — тая ж сажа:
Не апячэ — абмажа.

**Міхась Скрыпка**

## ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ

Знайдзі 20 адрозненняў паміж малюнкамі.





# Курёзы

## НА ЗАЙЗДРАСЦЬ ВІЛЬГЕЛЬМУ ТЭЛЮ

Бумеранг — гэта не толькі паляўнічы, але і спартыўны снарад: у некаторых краінах праводзяцца чэмпіянаты па кіданні бумеранга. А некаторыя аматары ператвараюць гэтае ўмельства ў трукацтва. Напрыклад, вядомы ў ЗША кідальнік бумеранга Піт Руф час ад часу дэманструе рызыкоўны нумар. Паставіўшы сабе на галаву яблыка, ён



пускае бумеранг, цэлячыся... у самога сябе. Снарад далятае да акрэсленага пункта — а хуткасць яго дасягае 80 кіламетраў у гадзіну — і вяртаецца да кідальніка. Руф злёгку нахіляе галаву, і бумеранг, быццам нажом, зразае палавінку яблыка. Вільгельм Тэль мог бы пазайздросціць: цэль паражана і сынам можна не рызыкаваць.

## ЧАМУ ПОЕЗД СПАЗНІЎСЯ

У 1962 годзе ўсе жыхары італьянскага горада Савона сабраліся на ўрачыстую цырымонію — адкрыццё чыгуначнага вакзала. Але першы поезд яны ўбачылі тут толькі ў 1977 годзе: чыгунку пракладі толькі праз 15 год пасля адкрыцця вакзала.




Спускаючыся з неба на зямлю, не забудзьце раскрыць парашут!